# БАЛТЫКА-ПОНТЫ-КАСПЭЯ

Побач зь існуючымі ўжо канцэпцыямі будучай міжгаспадарсваўскай сувязі народаў, паняволеных сяньня бальшавізмам, рэпрээнтаванымі Фэдэральным Клюбам Народаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы, Антыбальшавіцкім Блёкам Народаў, Інтэрнацыяналам Свабоды, Прамэтэяўская Лігай Атлянтычнай Хартыі «Прамэтэй», паўстаў у некаторых украінскіх колах яшчэ новы праект — Балтыйска — Чарнаморска — Каспійскай канфэдэрацыі. Дзеля таго, што гэты праект сам па сабе зьяўляецца даволі цікавым, пастараемся ў парадку інфармацыі пазнаёміць зь ім шырэйшыя колы беларускага грамадзянства.

На гэтую тэму рэд. О. Зыбачынскі зьмясьціў 15 і 22 верасьня два артыкулы ў украінскай газэце «Промінь», што выходзіць ў Аўстрыі.

Аўтар на пачатку сьцьвярджае, што сяньня ўжо сталася ясным, што ніводзін народ ці гаспадарства ня можа быць самавыстарчальным. Аўтаркія — гэта ўжо пусты гук. Вось-жа дзеля гэтага мы ўжо перажылі «крывавае сярэднявечча» гітлерызму й перажываем «чорную рэакцыю» расейскага бальшавізму. Яны давялі сьвет да поўнае руіны й хаосу.

Спробы знайсьці выхад з гэтае сытуацыі спрычынілі паўстаньне розных палітычных канцэпцыяў у форме гаспадарстваўскіх блёкаў ці вялікапрасторавых аб'яднаньняў: канцэпцыя Пан-Эўропы, Заходняя Вунія, на грунце эміграцыі — Інтэрмарыюм, або Фэдэрацыя Сярэдня-Ўсходняй Эўропы й г. д. Аўтар уважае, што бальшыня гэтых канцэпцыяў зьяўляецца каньюнктурнай або прапагандова-мэханічнай канструкцыяй, якая па сваей структуры часта разыходзіцца із сваімі мэтамі, а сваімі функцыямі — з патрэбамі жыцьця. Бо кажная канцэпцыя, калі яна хоча быць доўгатрывалай, павінна арганічна вырастаць з жыцьця, зь ягоных гістарычных працэсаў змаганьня. Дзеля гэтага ў васнове ўсякай вялікапрасторавай канцэпцыі павінны ляжаць наступныя прынцыпы:

**1. Арганічнасьць і рэальнасьць об'яднаньня,** як культурна-гістарычнае й палітычна-эканамічнае жыцьцёвае адзінства, а не мэханічны зьлепак.

Вызвольная рэвалюцыя народаў на прасторы ад Балтыкі й Адрыятыкі цераз прадоўжаную Эўропу — паўночна-заходнюю Азію да Ціхага Акіяну — гэта жывая сучасная рэчаіснасьць, якая ў напружаным вызвольным змаганьні цэмэнтуе жывыя асновы свае перамогі ў вялікапрасторавай канцэпцыі сухадольнага Інтэркантынэнту.

Гарантыяй доўгатрываласьці гэтай канцэпцыі ёсьць небясьпека москоўска-нямецкага ціску. Аўтар цьвяроза глядзіць на супольнасьць змаганьня й будучага жыцьця народаў гэтага вялікапрастору. Ён сьцьвярджае, што сярод іх яшчэ шмат розных жыцьцёвых разыходжаньняў і не перажытых імперыялістычных імкненьняў. Таму ідэя канфэдэрацыі народаў Інтэркантынэнту толькі нараджаецца сярод канвульсіяў сучаснае Гісторыі. Яе поўнае ажыцьцяўленьне — палітычная праграма будучыні.

**2. Дабравольны ўдзел зацікаўленых народаў.** Тут можа быць толькі адзін прымус, гэта прымус свабоды.

**3. Раўнапраўнасьць усіх народаў-удзельнікаў.**

**4. Разьмежаваньне нацыянальна-гаспадарстваўскіх тэрыторыяў паводля этнаграфічнага прынцыпу.**

**5. Пашана гаспадарстваўска-палітычных вартасьцяў і сацыяльных сваясаблівасьцяў народаў-удзельнікаў.**

**Канфэдэрацыя** — сяньня адзіная арганічная й рэальная палітычная форма вялікапрасторавых- аб'яднаньняў. Пад канфэдэрацыяй аўтар разумее трывалую форму ўсебаковага супрацоўніцтва дзеля супольнае абароны й гарманійнага разьвіцьця самастойных нацыянальных гаспадарстваў.

Дасьлед гісторыі й сучасныя падзеі змушаюць народы, пражываючыя на вялікапрасторы між Балтыйскім, Чорным і Каспійскім морамі, да задзіночаньня ў канфэдэрацыю трымор'я, як аснову незалежных нацыянальных гаспадарстваў: Эстоніі, Латвіі, Летувы, Беларусі, Польшчы, Украіны, Казакіі, Паўночнага Каўказу, Грузіі, Азэрбайджану й Армэніі.

Да канфэдэрацыі трымор'я маглі-б заўсёды прыступіць Румунія й Славакія на захадзе, Фінляндыя на поўначы й Туркестан на ўсходзе. Такая канфэдэрацыя не выключае цясьнейшых рэгіянальных саюзаў — фэдэрацыяў, як фэдэрацыя народаў Каўказу й г. д.

Канфэдэрацыя Балтыка — Понты—Каспэі забясьпечвае поўнасьцю ўсебаковыя інтарэсы кажнага ўдзельніка ў кірунку:

1. Сувэрэннага існаваньня й усебаковага разьвіцьця.
2. Пасьпяховае абароны супраць маскоўскага й нямецкага імпэрыялізмаў.
3. Гарманійнага дапаўненьня й абмены сыравінамі й рознымі іншымі таварамі.
4. Паўстаньне ў мэтах разьвіцьця гандлю й прамысловасьці аднастайнае сыстэмы наземнага й воднага транспарту, прадоўжанага трыма марскімі шляхамі на поўначы, паўднІ й усходзе.
5. Узбагачэньне гістарычнага патэнцыялу жыцьця кажнага паасобку й усіх разам, ліквідацыі гістарычных антаганізмаў і непаразуменьняў, якія часта служылі прычынай нашых нацыянальных катастрофаў, як асабліва антаганізм: польська-украінскі й польска-беларускі.

Тут аўтар зазначае, што ў інтарэсах самога польскага народу, ягонага супрацоўніцтва з суседзямі ўсходу, а таксама ў інтарэсах міжнароднага міру — **польскі імпэрыялізм мусіць зьнікнуць** (падкрэсьленьне аўтара). Польшча напасьледак павінна зьліквідаваць гэныя асудныя для яе тры фронты свае гісторыі, калі ня хоча быць далей прычынай вайны й хаосу на Ўсходзе Эўропы.

Аднак — сьцьвярджае аўтар — канфэдэрацыя Балтыка — Понты —Каспэі зьяуляецца рэальнай палітычнай неабходнасьцю навет тады, калі б Польшча адмовілася ад яе. Дзякуючы канфэдэрацыі свабодалюбныя народы ўсходняй Эўропы ўзмоцняць свае незалежныя гаспадарствы й стануць вырашальным дзейнікам сусьветнае палітыкі.

У другой частцы свайго артыкулу аўтар падрабязьней аналізуе кааліцыю народаў Балтыка — Понці — Капэі. Ён разьдзяляе яе на тры прыродныя аб'еднаньні: 1. Балканска-Прыдунайскае, 2. Балтыйска-Чорнаморска — Каспійскае, сьцьвярджаючы, што ключом і сэрцам гэтага Інтэркантынэнту будзе заўсёды канфэдэрацыя Балтыка — Понты — Каспэі.

Далей аўтар аналізуе першае й трэцяе аб'еднаньне, Балканска-прыдунайскі прастор ён называе брамай да сэрца Эўропы й адначасна мостам Эўропы на Блізкі Ўсход. Таму народы гэтага прастору будуць заўсёды ахвярай захопнікаў, калі Балканы не задзіночацца ў моцны саюз. Войскі трэцяга райху стараліся апанаваць гэтую браму цэнтральнай Эўропы, а цяпер Саветы атакуюць яе апошні апорны пункт — Грэцыю. Балканска-Прыдунайская канфэдэрацыя зьяўляецца, напасьледак, прыроднай і рэальнай складовай часткай — заходнім крылом кааліцыйнага забясьпечаньня ладу й свабоды народаў Інтэркантынэнту.

Здругога боку народы Ідэль-Уралу, Туркестану й Сібіру цесна зьвязаны з народамі ўсходняе Эўропы ня толькі сваімі прыроднымі багацьцямі, ня толькі тым, што гэтыя прасторы палітыя потам і крывёю мільёнаў нашых суродзічаў, але й сваім вызвольным змаганьнем, сваім імкненьнем да свабоднага й незалежнага жыцьця. Гэта давялі ня толькі народы Ідэль-Уралу й Туркестану ўжо ў часе першае сусьветнае вайны й пасьля яе, але й народы Сібіру. Багацьці гэтых прастораў мусяць быць вырваны з рук расейскага імпэрыялізму, які выкарыстоўвае іх на ланцугі няволі шматлікіх народаў Эўропы й Азіі. Паўночная Азія павінна быць уключана ў сыстэму Эўропы дзеля забясьпечаньня ейнае свабоды шляхам прызнаньня права самавызначэньня таксама народам гэтага прастору.

Вялікапрасторавае аб'еднаньне народаў паўночнай Азіі магчымае ў форме Уральска-Прыамурскага саюзу ці Сібірска-Туркестанскай канфэдэрацыі. Гэта прыродная складовая частка, усходняе крыло кааліцыйнага забясьпечаньня ладу й свабоды народаў Інтэркантынэнту. Дзеля гэтага самавызначэньне народаў паўночнай Азіі павінна стацца нязьменнай замежна-палітычнай праграмай канфэдэрацыі Балтыка—Понты—Каспэі.

Такім чынам цэнтрам Інтэркантынэнту мусіць стацца Балтыйска — Чорнаморска — Каспійская канфэдэрацыя, ягонае левае крыло Балканска-Дунайская канфэдэрацыя зьяўляецца флянгам проціпямецкага фронту, ягонае правае крыло: Сібірска-Туркестанская канфэдэрацыя — флянг супраць агрэсіі Масквы.

На такіх асновах аўтар уважае збудуваць магчымасьць забясьпечаньня будучыні нашых народаў, канцэпцыю нашага змаганьня й непарушнага сувэрэннага існаваньня. Зьяўляецца гэтая канцэпцыя рэальнай? Бяз сумлеву. Балканска-Прыдунайская канфэдэрацыя й сама Балтыка — Понты — Каспея могуцьбыць без асаблівых цяжкасьцяў зрэалізаваныя. Правае-ж крыло — Сібірска-Туркестанская канфэдэрацыя, на нашую думку, зьяўляецца хутчэй праекцыяй на будучыню, хаця й не такую ўжо далёкую й не немагчымую.

**Б-ц.**

## РАБОТНІЦКАЯ ПАРТЫЯ АБ ЗАХОДНЯЙ ВУНІІ

Ангельская работніцкая партыя выдала надаўна брашуру ў справе заходняй вуніі гаспадарстваў, у якой між іншым пішацца: «Эўрапэйская вунія павінна стацца трэйцяй сілай у міжнацыянальных дачыненьнях, роўнай савецкаму або амэрыканскаму блёку». Гэта вунія дазволіць Эўропе вызваліцца з гаспадарскае залежнасьці ад ЗША й пасьпяхова супрацьставіцца плянам савецкае агрэсыі.

## НА ЎЗБРАЕНЬНЕ ЗАХОДНЯЙ ВУНІІ

Амерыканскі рэспубліканскі сэнатар Кэпэр у сваей прамове 10 кастрычніка заявіў, што наступны амэрыканскі кангрэс, які зьбярэцца ў студзені 1949 г., займенца паўнамоцтвамі для помачы на ўзбраеньне заходняй вуніі ў вышыні двух мільярдаў даляраў. Паводля ягонага пагляду будзе хутка афіцыяльна адкінутая думка, што ўдасца захаваць мір паміж заходнімі дэмакратыямі й Савецкім Саюзам дарогай дыпляматычных пагадненьняў.

---

А гэта: **дыплёматычнымі сродкамі дамагчыся: 1) поўнага прызнаньня беларускаму народу іншымі народамі ягонага законнага права на свабоду й дзяржўную незалежнасьць 2) у этнаграфічных межах, 3) загарантаваньня імі на аснове ўзаемных забавязаньняў дзейнае падтрымкі нас у здабыцьці гэтае дзяржаўнае незалежнасьці, 4) а потым — калектыўнае на аснове супольных інтарэсаў канструкцыі такога ўкладу міждзяржаўных сілаў і сувязяў у Эўропе, які-б забясьпечыў нашаму народу ўтрыманьне свайго сувэрэннага права перад магчымымі наступнымі спробамі агрэсіі расейскага ці якогась іншага імпэрыялізму, гарантаваў-бы нам дзяржаўную незалежнасьць, тэрытарыяльную цэласьць і гаспадарчую самавыстарчальнасьць.**

## ВЫХОДНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ НАШАЕ ВОНКАВАЕ ПАЛІТЫКІ

Каб ажыцьцявіць і забясьпечыць гэтыя мэты, мы абявязаныя мець распрацаваную ў стройную сыстэму сваю беларускую внкава-палітычную канцэпцыю. Але перш, чым распрацоўваць такую канцэпцыю, трэба ўстанавіць ці сьцьвердзіць ужо існуючыя тыя выходныя прынцыпы, якія павінны ляжаць у васнове нашае вонкавае палітыкі, адпраўляючыся ад якіх можна пэўней падкрэсьліць праекцыю ў будучыню — распрацаваць сваю канцэпцыю на даўжэйшую мэту.

Якія-ж выходныя прынцыпы, каторыя мы абявязаны класьці ў васнову нашае вонкавае палітыкі, у васнову пабудовы свае вонкава-палітычнае канцэпцыі?

Да такіх асноўных прынцыпаў належаць:

1) **Воляюбнасьць** беларускага народу, ягонае імкненьне быць поўным гаспадаром у сваім Краі, самому парадкаваць сваё жыцьцё. Гэты найвышэйшы прынцып «зьдзейсьненьня свайго права на поўнае самавызначэньне», сьцьверджаны самім беларускім народам у вышэй згаданых найаўтарытэтнейшых дзяржаўна-нацыянальных актах — Устаўных Граматах Рады БНР. У іх беларускі народ вуснамі свайго ўсенароднага парлямэнту рашуча заявіў, што ён ня хоча быць **аб'ектам** права й сувэрэннасьці, **аб'ектам** чужое палітыкі й інтарэсаў — ня хоча быць нявольнікам расейскае таталітарна-калёніяльнае Імпэрыі ці якогась іншага чужанацыянальнага дзяржаўнага арганізму. Наадварот, ён **хоча быць народам — сувэрэнам, сувэрэнам свайго прыроднага права, суб'ектам** сувэрэнасьці — хоча быць вольным і незалежным народам ў сям'і іншых вольных народаў сьвету. І гэта тым балей, што свайго дзяржаўна-незалежніцкага жыцьця нікому — ні Расеі, ні Польшчы — не пераказваў. Гэтае законнае права ад яго было адабранае сілаю.

Такое разуменьне воляюбнасьці беларускага народу поўнасьцю пакрываецца й ня можа не пакрывацца зь ягоным шчырым і прыродным вызнаньнем ды пашанаваньнем свабоды іншых народаў.

Гэта абавязвае нас: а) весьці сваю вонкавую палітыку самастойна, ніякім няпрошаным «апякуном» — імпэрыялістым яе не пераказваючы, б) з поўнай рашучасьцю асудзіць і адкінуць усялякага роду перакінчыцтва й арыентацтва ў розныя чужанацыянальныя бакі, як спрэчнае з воляю самога народу, згубнае палітыканства некаторых рэнэгацкіх беларускіх групаў, што ў сваёй арыентацыі на кагось із гістарычных ворагаў беларускага народу спрабуюць дачэпліваць Беларусь да чужых дзяржаўных канструкцыяў і то дачэпліваць сьлепа й безасьцярожна. Такім рэнэгатам беларускага народу мы мусім заявіць, што яны ня маюць нічога супольнага з воляюбнымі імкненьнямі свайго народу, а таму няхай лепей зусім не займаюцца гульнёю ў палітыку, каб не рабіць шкоды нашаму нацыянальна-вызвольнаму руху.

2) **Міралюбнасьць** беларускага народу, ягонае ймкненьне жыць у міры й згодзе з сваімі суседзямі і з усімі іншымі народамі сьвету; аднак пад умовою, што й іншыя народы таксама ня будуць парушаць мірнага сужыцьця з намі й адмовяцца ад сваіх імпэрыялістычных агрэсіяў на нашую тэрыторыю.

3) **Рэалістычнасьць** у падходзе да плянаваньня свае вонкавае палітыкі; поўная сьведамасьць таго, што вонкавая палітыка практычна ніколі ня кіруецца сантымэнтальнымі інтэнцыямі, хоць і апіраецца на высокія гуманітарныя ідэалы; нязломнае датрымоўваньне аксыёмы, згодна якое ў васнове вонкавае палітыкі павінен ляжаць прынцып найпільнейшага сьцеражэньня дзяржаўных, нацыянальных, эканамічных, культурных і ўсялякіх іншых інтарэсаў, што й павінна вызначаць нашае становішча ў розных міжнародных паразуменьнях і сувязях.

Гэта зусім не азначае, што нашае вонкавая палітыка ў такім разе выходзіла-б із вузка-эгаістычных нацыянальных карысьцяў (як гэта, прыкладам, у краінах імпэрыялістычных), што магло-б запярэчваць усялякім асновам агульна-людзкое маралі й этыкі ды ў корані падрываць самыя перадумовы міжнароднага супрацоўніцтва. А гэта азначае, што наша вонкавая палітыка, выходзячы із патрэбы забясьпечаньня інтарэсаў сваго народу, мае імкнуцца да такога ўнармаваньня міжнародных дачыненьняў, якое было-б справядлівым, прыродна-мэтазгодным, найбольш адпаведным і прыемлемым для ўсіх бакоў, прынамсі ў роўнай меры іх задавальняла-б.

4) **Далёкасяжнасьць** у плянаваньні свае вонкавае палітыкі. Г. зн., што ейнае плянаваньне мы ня можам абмяжоўваць толькі да якойсьці канкрэтна ўзятае міжнародна-палітычнае каньюнктуры, як гэта, нажаль, у практыцы нашага нацыянальна-вызвольнага руху ўжо ня раз было ды прыносіла нам столькі горкіх расчараваньняў. Такое плянаваньне фактычна й зводзілася да арыентацтва, кажны раз прыносячы нам западта зьнікомыя й кароткатрывалыя вынікі, зусім не гарантуючы дасягненьня тых найвышэйшых мэтаў, за якія наш народ змагаецца. Таму наша вонкавая палітыка мусіць плянавацца на далёкую пэрспэктыву, так, каб яна магла ў любой міжнародна-палітычнай сытуацыі гарантаваць нам дзяржаўную незалежнасьць.

5) **Шырокае міжнароднае супрацоўніцтва,** якое мае спрыяць утрыманьню ўсеагульнага міру й справядлівасьці, а таксама эканамічнага й культурнага прагрэсу. Але міжнароднае супрацоўніцтва павінна выходзіць із прынцыпу поўнае й запраўднае раўнапраўнасьці партнэраў, яно павінна катэгарычна выключаць: а) абмежаваньне нашае дзяржаўнае ці нацыянальнае сувэрэннасьці на карысьць іншае дзяржавы ці народу; б) абмежаваньне нашае сувэрэннасьці ў большай меры, чымся ў іншых народаў, на карысьць якога-небудзь супольнага міждзяржаўнага арганізму; в) умешваньне іншага народу ці дзяржавы ў нашыя нутраныя нацыянальныя ці дзяржаўныя справы.

(Працяг будзе).

